Літаратурная старонка

Трыбуна беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку № 26

АЛЕСЬ БАРСКІ

## ГАРМОНІЯ

Месяц, як ветразь, паплыў,
Выгнуўшы белыя плечы,
Пахне на межах палын,
Сумуе над рэчкаю вечар.

Рукой павяла цішыня,
Зложыла на нівы далоні.
Ні дадаць і нічога адняць,
Дасканаласць у свеце сягоння.

Вырыс высокіх альшын
Зоры ў каронах калыша.
Сядай і паэму пішы,
Напэўна праўдзіва напішаш.

Ні дадаць і нічога адняць,
Прырода і ты ў гармоніі.
На рыфмы твае цішыня
Пяшчотна паложыць далоні.



## АСАЛОДА

І верш свой напоўнены шчасцем
Бы шампанскае ў чары глыбокай
Хачу я да вуснаў прыкласці
Дзяўчыне маёй сінявокай

Хай п'е мае думкі і мары,
Як вып'е — паўстануць другія
Напэўна ў адплату падарыць
Мне вусны свае дарагія.

Гадзіннікі крышаць гадзіны,
Канаюць секунды, імгненні.
Я з песняй і любай дзяўчынай
І ноч за акном на каленах.

Прышоў я са звонкаю одай,
Як з чаркай, шампанскім налітай
Хачу я шукаць асалоды
На вуснах тваіх сакавітых



## КВЕТКІ

Я кветкі дзяўчыне з расою прыношу,
У кропельках плываюць зорак праменні,
А сэрца п'янее настроем харошым,
Пяшчотнаю ласкай напоўнены жмені.

У рукі зноў возьме букецік яскравы,
У росах замочыць і вусны і косы,
Падзякуе шчыра мне й зоркам ласкава,
Я дзякаваць буду шчасліваму лёсу.

Прынёс я расхіленым вуснам падарак,
Цалую без зроку, без слоў і без гукаў.
Спляліся з табою надзеі і мары,
І кветкі, і росы, і вусны, і рукі.



Чацвер, чацвертая гадзіна раніцы. Што гэта сягоння жыдкі парупіліся, не спяць? Уся вуліца поўна старцамі доўгабародымі ў лапсардаках па калені і жыдовачкамі напаўапранутымі... А кожны мае сваю працу. Адзін з віламі, другі з мятлой ці венікам, трэці з рыдлёўкай, чацверты з граблямі... Мятуць вуліцы, завулкі, падворкі глыбоцкія, як бы вялікіх гасцей спаткаць маюцца. Хто ж яны, такія дарагія госцікі?!

# Кірмаш у Глыбокім

*

Гадзіна шостая раніцы. Далёка за рагаткай Глыбокага нешта загручэла. Гэта ўз'ехаў першым на брук мужычок вясковы са сваёй жонкай. Яны едуць на кірмаш. Пры іх пара курак з нязнесенымі яшчэ яйкамі (такіх курэй жыдкі ахвотней купляюць), авечка, жмутак шарсціння, кашолка яек.

Вось хто сягоння ў Глыбокім лічыцца дарагімі госцікамі. Неўзабаве гэткімі госцікамі пакрываюцца ўсе дарогі і гасцінец, вядучыя да Глыбокага. Імі напоўніцца ўсё Глыбокае. Цэнны гэта горад Глыбокае, асабліва ў чацвер. Гляньце толькі поўднем на рынак — велізарны густы лес з аглабель, стаячых угару. Іржуць коні, бляюць авечкі, пішчаць свінні, пяюць пеўні... Дзе-не-дзе чуваць піск скрыпкі і бранчанне цымбалаў, а там гармонік і навокал моладзь і старыкі слухаюць, цешацца, кожнаму служыць на ўзвесяленне музыка. І сонца прыхільна асвечвае і багаслаўляе ўсіх чыста, не пытаючыся якой хто веры.

Кірмаш у Глыбокім — гэта нешта нявіданае. Нават чалавек цвярозы ад гоману траціць часам галаў, адно толькі ў ёй пытанне:

«Дзе гэта я?!»

Калі гэтым момантам аслаблення не трапіш пад каламажку якога засцянковага шляхціча, дык тваё асабістае ў гэтым шчасце. Значыцца, нарадзіўся, як той кажа, пад шчаслівай планетай. Як ужо прыйдзеш да сябе, асвоішся, прызвычаішся — прыгледзься да тых, хто гэткі гоман робіць.

Во, мужычок ужо падпіўшы, стары, ідзе па рынку, хіляецца ў бакі, трымае вышэй галавы бутэльку і прыглядаецца асалавеўшымі вачыма, ці поўна Хаім наліў яму ворвалю... Варочаецца і ругаецца, што крамнік толькі абмазаў бутэльку, а ў сярэдзіне ворвалю няма.

Во, нейкі рэзнік крычыць, каб далі яму дарогу. Конь ягоны пхаецца праз натоўп людзей... Вязе ён калёсы, поўныя скур, толькі што садраных на бойні з целятак і кароў, пакорных авечак, адважных быкоў. Скуры яшчэ дымяцца, некаторыя цягнуцца па бруку, азначаючы крывёй дарогу.

Во, чалавек васпаваты, у жоўтым брылі, прадае дыван і залатыя рэчы. Людзі, навокал абступіўшы яго, прыглядаюцца, баяцца купіць, пытаюцца, ці гэта ягоная ўласнасць, ці то «са стараны». Ён б'е сябе кулаком у грудзі і клянецца:

— Да душы ўсё гэта ўласнымі рукамі і мазалём здабытае.

Спаткаеце на рынку глыбоцкім і чыноўнікаў з худымі і кіслымі мінамі з кашолачкамі ў руках, з жонкамі і без жонак. Яны моўчкі купляюць сыры яйкі, масла.

Во... прадаюць з калёс жыта, бульбу, скуры, ваўкоў і лісіц, аўчынкі, кажухі, сена, салому, дзежкі, начоўкі, панарады, запражку з канём і калёсамі...

Вунь Аўсей, трымаючы ў руцэ малы бязмен, адважвае і, патаргаваўшы, купляе шарсціннє.

*

Ужо гадзіна 4 пасля поўдня. Кірмаш падыходзіць к канцу. Задаволены купцы, задаволены мяшчане, задаволены жыдкі, задаволены сяляне. Госцікі, маючы замест тавару поўныя кішэні грошай, заходзяць у піўярні, кавярні. Поўна іх у крамах з абуткам, адзежай. Некаторыя купляюць бутэлькамі гарэлку і... п'юць гаротныя, і валяцца, аслабеўшыя, на калёсы, ругаючыся, спяваючы і ўсякую бязглуздзіцу плетучы.

Жонкі тады бяруць лейцы ў свае рукі, сядаюць на калёсы і вязуць дамоў падпіўшых мужычкоў.

Пад вечар Глыбокае пусцее.

Жыдкі збіраюцца ў кучу і ўспамінаюць жыва жыццё дня. Дзе-не-дзе, на рынку, малыя жыдзяняткі збіраюць ля вазоў парассыпанае госцікамі сена, ды свінні, куры і козы, а часам і кароўкі жыдоўскія шукаюць па рынку ядоміны.

Чацвер — вялікае свята. Чацвер — слава і багацце Глыбокага.

**АНТОСЬ З ЛЕПЛЯ**

## Маёй настаўніцы

Чалавек — гэта гучыць горда
Чалавека шанаваць трэба
(М. Горкі)

Калісь...
(Можа таму я толькі і жыву,
што ты заўважыла мяне на дне)
Ты палажыла мне
далонь на галаву
і моўчкі заглянула
ў сэрца.
Ў самае сэрца ты заглянула мне!
Можа і помніш ты
кудзелю валасоў,
брудны твар
і рук акачанелых сінь,
салому, што смялася з лапцёў,
калена,
што вылазіла з штаноў,
слёз - здраднікаў
на твары раўчукі,
А ў вачах роспач,
нянавісць і бунт?
Цяпло і боль цяклі з тваёй рукі.
У восем год
я ўжо не быў дзіцём,
і не пагладзілі мяне
ні людзі, ні жыццё.
Тады
ты ўбачыла
іскру дабра ва мне
Раздзьмухала яе
Вучыцца загадала
і жыць і працаваць для лепшых дзён
Пасля ўвяла мяне
Ў цудоўны кніжкі свет,
дзе столькі я знайшоў настаўнікаў, сяброў,
дзе навучыўся
сніць аб шчасці сон...
Ты не помніш —
столькі ўжо гадоў!
А ў мяне жыве, бурліць ў грудзях...
А раз
я ўбачыў слёзы і ў тваіх вачах.
І цябе зраніў хтось —
нечалавечы, злы.
Ты ж,
Глянуўшы мне ў твар
сказала цвёрда:
— Чалавек — усё ж гучыць горда
І трэба шанаваць яго.
Глыбока верыць у яго, кахаць
яму аддаць
сэрца свайго кожнае біццё!
А такой сілай палымнела тваё вока
што паверыў я табе
на ўсё жыццё

**АЛЕСЬ СВІСЁК**

 

# Жамчужына без аправы

(Працяг са стар. 1)

часнай архітэктуры. Аўтарамі гэтага праекта з'яўляюцца знатныя варшаўскія архітэктары — п. п. Вежбіцкі, Макшынскі і Клышэўскі. Гэтыя архітэктары з'яўляюцца аўтарамі будынку ЦК ПАРП і ўзнагароджанага «Жыцем Варшавы» ў конкурсе найлепшага жыллёвага будынку ў 1959 г. у Варшаве. Гэты будынак, плошчай у 1.500 квадратных метраў, будзе мець 150 спальных месц, у гэтым некалькі першакласных апартаментаў. Будуць у ім таксама клубныя залы, кавярня і вялікі рэстаран.

Разам з будовай новай гасцініцы пачнуцца працы пры будове стаянкі аўтамашын.

І яшчэ адна рэч, аб якой варта ўспомніць. Вартаўнікі і лясная служба з «абслугі» зубра закончыць штодзённыя шматкіламетравыя вандраванні да зубрыных запаведнікаў, якія ляжаць здалёк ад людскіх паселішч. Яны паселяцца пры запаведніках, а каралі пушчы, якім давядзецца жыць у замкнутым запаведніку (часць зуброў знаходзіцца на свабодзе), будуць агароджаны мацнейшым, бетонным плотам. Драўляныя платы, якія цяпер існуюць, не толькі патрабуюць частага рамонту, але яны недастаткова «моцныя», каб маглі поўнасцю гарантаваць бяспеку наведвальнікам і вартаўнікам.

Утаемнічаныя даказваюць, што зубр ужо «распаўсюдзіўся», стаў «істотай» надзённай і «прыеўся». Дадаюць, што можна ўжо было б гаварыць, як аб нечым рэальным і патрэбным.

Факт, утрыманне вялікага зубрынага стада патрабуе паважных фінансавых сродкаў. Уладар пушчы, наогул патрабавальны, тым больш, калі жыве ў малой колькасці. І нічога дзіўнага, што кошт зуброў будзе ўзрастаць разам з узростам ліку гэтых звяроў, калі на дадатак будзе вясціся такая практыка, як у мінулыя гады, калі сена для зуброў прывозіцца аж з быдгошчскага ваяводства. Дзіўная гэта рэч — аднак праўдзівая.

«Спрэчкай на высокім узроўні» называлі дасціпныя недаразуменне, якое ўзнікла паміж уласнікамі лугоў, якія ляжаць па-суседску з запаведнікам, і Польскай акадэміяй навук. Гэткага роду спрэчкі не часта здараюцца.

У чым жа справа?

На радасць мясцовых сялян, іх багонныя лугі былі змеліяраваны. Але пасля заканчэння работ аказалася, што адвадняючыя равы, выкананыя паблізу запаведніка, могуць значна патрывожыць жыццё Парка. Воды з запаведніка, выведзеныя штучнымі равамі ў працягу некалькі год, выразным спосабам пасадзейнічаюць змене фаўны і флоры месца, распаложанага паблізу каналаў. Меліярацыя г. з. «атуліны» з'яўляецца непажаданай з чыста навуковага аспекту. Сяляне спрэчку прайгралі. Равы, якія каштавалі 70 тыс. зл., у імя навукі будуць засыпаны. Але ці справу можна лічыць закончанай?

Шмат ёсць спраў «незакончаных», якія жыццёва датычаць Белавежы, яе жыхароў і тысячаў турыстаў, наведваючых гэтую прыгожую аколіцу. Вось хоць бы першая з берагу! ДОКП у Варшаве хацела пабудаваць «вакзал» на станцыі Белавежа — Палац. Гэты твор архітэктуры, запланаваны ўпамянутай дырэкцыяй, меў мець 30 квадратных метраў. Будаўляны матэрыял? Дробязь — чыгунныя шпалы. Цэласць мела быць пакрытая папай.

Ад гэтай інвестыцыі, якая не толькі была б пачварнай, але зусім непрыдатнай з увагі на ўжытковую плошчу, бацькі Белавежы з цяжкасцю адхрысціліся, але калі на яе месца прыдзе новая, уласцівая?

Турысты цікавяцца не толькі пушчай, але і мясцовай архітэктурай, помнікамі. Менавіта з думкай аб «прыемным» выглядзе пасёлка грамадская рада нарадовая праз Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы звярнулася з просьбай да Прэзідыума ВРН у Беластоку, каб дапамаглі вярнуць статую зубра, якая ў мінулым упрыгожвала Белавежу, а сёння з'яўляецца ўласнасцю «фонду працаўнічых учасаў» і знаходзіцца ў Спале. Статуя зубра прайшла дзіўную гісторыю. У 1915 г. была вывезена ў глыб Расіі. У 1926 г. савецкія ўлады перадалі статую як вартасную рэч Польшчы, а пастаўлена яна была каля тагачаснай рэзідэнцыі прэзідэнта ў Спале, дзе знаходзіцца па сённяшні дзень.

Прэзідыум ВРН, каб даць справе «ўласцівы напрамак», накіраваў яе да рады міністраў і... ўжо другі год справа набірае «ужэндовай моцы».

Ужо найвышэйшы час, каб шмат спраў, звязаных з выглядам Белавежы, яе эстэтыкай, культурна - сацыяльнымі пабудовамі і г. д. перасталі быць «гардзіевым вузлом». Трэба раз і назаўсёды здаць сабе справу з таго, што загранічныя госці, якія наведваюць Белавежу, — гэта пераважна людзі, якія маюць доступ да друку, радыё, тэлебачання. Часта (і то вельмі) вывозяць з Белавежы «фальшывае» ўяўленне аб рэчаіснасці польскага мястэчка. (Дарэчы, Белавежа дагэтуль не мае гарадскіх праў).

Трэба адхіліць заслонку публічнай таямніцы і сказаць, што Белавежа ў сэнсе культурнага развіцця, сацыяльна - бытавых пабудоў і г. д. з'яўляецца занядбанай мясцовасцю.

А мы ж Белавежай ганарымся як навуковым цэнтрам. Гэта менавіта тут вучоныя адчуваюць сябе ў сваёй стыхіі. Гэта ж сюды з году ў год прыязджаюць дзесяткі тысяч турыстаў і вялікая колькасць вучоных, каб захапляцца чарамі пушчы і даследваць яе таямніцы.

За некалькі тысяч злотых, якія ГРН прызначае на развіццё г. зв. турыстыкі, напэўна не ўдасца падняць Белавежу да ролі турыстычнага і навуковага цэнтра ў поўным значэнні гэтых слоў.

Белавежа не павінна быць далей жамчужынай без аправы.

**МІКАЛАЙ КАЗАК**
**Старшыня Камісіі асветы і культуры ПРН у Гайнаўцы**



Фота — Мікола Валкавыцкі.

---

расстрэлу накіроўвалі ў атрад для правядзення на іх доследаў.

Я даведаўся, што людзі, якіх прывозілі да нас кожную суботу ў турму, — гэта варожыя шпіёны, што ўжо каля двух тысяч з іх загінула ў выніку доследаў на іх і што цяпер ва ўнутранай турме сядзіць каля пяцісот чалавек.

«Доследы на людзях!» — вырваліся ў мяне. Я глядзеў на Акасі, задыхаючыся ад хвалявання, быццам мяне моцна схапілі за карк. Акасі, відавочна, думаў, што ўсё гэта ўжо мне вядома. Цяпер я зразумеў, у чым заключаецца строга ахоўваны сакрэт «Атрада 731», выкрыцця якога так баяліся!

«А калі б я быў варожым шпіёнам?» — гэтыя словы Акасі мне цяпер хацелася паўтарыць яму.

— Калі цяпер давядзецца сустрэцца зноў, не ведаю... Калі мяне зловяць, я буду забіты таксама, як гэтыя людзі... — Акасі кісла ўсміхнуўся. — Што зробіш: мы іх, а яны нас!

Пасля гэтай гутаркі я не бачыў яго больш месяца. Мае начальнікі, даведаўшыся, што я сустракаўся з Акасі, пачалі адносіцца да мяне куды лягчэй.

— Значыць, ты знаёмы з панам Акасі? — пыталі яны.

— Так, зразумела, ён жа з суседняй вёскі, — адказваў я, спецыяльна націскаючы на словы «суседняя вёска», каб падкрэсліць нашу блізкасць.

— Вось як?... Гэта вельмі вялікі чалавек. Ён узначальвае ўсю службу разведкі нашага атрада, — лісліва гаварылі некаторыя, разлічваючы, відавочна на тое, што я калі-небудзь перадам іх словы Акасі.

37

Пасля гутаркі з Акасі я пачаў чытаць тоўстыя кнігі па бактэрыялогіі. Я хацеў пераканацца, што доследы над людзьмі сапраўды практыкуюцца.

Аднак ні ў адной з гэтых кніг аб такіх доследах, зразумела, не гаварылася. Правядзенне эксперыментаў на людзях, асабліва заражэнне такімі хваробамі, як чума і халера, лічыцца злачынствам. Таму наіўна было чакаць, што аб іх будуць пісаць адкрыта. Але калі я пачаў шукаць доказаў, што такія эксперыменты праводзяцца, у вочы мне кінулася тое, на што раней я нейк не звяртаў ўвагі.

Каля кніжнай паліцы ў лабараторыі я прыкмеціў шафу з кнігамі, на якой было напісана: «Выносіць забараняецца».

Параіўшыся з Хасака і Саса, я звярнуўся да тэхніка - лабаранта Сагава: — Ці нельга нам паглядзець, некаторыя дадатковыя матэрыялы?

— Матэрыялы? Якія матэрыялы? — здзівіўся ён.

— Некаторыя рэчы па адных лекцыях цяжка зразумець, і мы хацелі б паглядзець здымкі хворых, калі яны ёсць... Нам хочацца лепш ведаць сімптомы хвароб.

— Вось як? Ну што ж, малайцы! Вы ўжо дастаткова тут працуеце. Можаце глядзець, колькі хочаце, — здзіўляюча проста сказаў Сагава і галавой паказаў на шафу з вывескай.

З гэтага дня ў нас з'явіліся новыя заняткі. Шматлікія матэрыялы былі свежымі здымкамі, якія рабілі ў працэсе доследаў над людзьмі.

Аднойчы мы наткнуліся на апісанне доследаў, праведзеных на палігоне ў Анада. Бомбы начынялі ўзбудзіцелямі газавай гангрэны і стаўбняка і

38

скідвалі з самалёта. Доследы мелі мэту ўстанавіць ступень заражэння ў залежнасці ад радыуса разлёта заражаных асколкаў бомбы. Для гэтага праз кожныя дзесяць - дваццаць метраў ад месца, дзе павінна была ўпасці і ўзарвацца бомба, укапвалі ў зямлю слупы і прывязвалі да іх «калоды» (так чамусьці называлі зняволеных). На гэтых «калодах» і спраўджалі эфектыўнасць дзеяння такіх бомб.

Сагава вытлумачыў нам, што «калоды» з павязкамі на вачах прывязвалі да слупоў або ў адных трусах, або адзетымі, пакідаючы адкрытымі толькі ягадзіцы ці толькі твар і рукі. Пры гэтым стараліся адзяваць паддоследных у адзежу, якую звычайна носіць большасць насельніцтва.

Што павінны былі перажываць здаровыя людзі, прывязаныя да слупоў, чуючы гук набліжаючыхся самалётаў, а затым узрывы бомб у непасрэднай блізкасці ад сябе! У іх целы ўрэзваліся асколкі бомб, вострыя каменьчыкі і пясчынкі, заражаныя смяртэльнымі бактэрыямі. Няшчасныя захворвалі, затым над імі праводзілі доследы па лячэнню страшных хвароб, хоць ніякай надзеі на выратаванне не было. Нават калі выпадкова хто і выздараўліваў, яго ўсё роўна не пакідалі ў жывых.

Аднак доследы са звыклымі бомбамі, відавочна, не давалі значнага эфекта, так як з-за высокай тэмпературы і ціску, узнікаючых пры узрыве, большая частка бактэрый гінула.

— Аднак усё гэта, можна сказаць, за намі. Ужо амаль адкрыты канцэнтраты анаэробных бактэрый... Ну цяпер вам усё зразумела! — сказаў аднойчы Сагава.

(Працяг будзе)

39



 

